## СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ



Фабрыка кармоў у Старасельцах.

# Курыца малая — патрэбы вялікія

У кармавой норме для кароў збожжавыя кармы адыгрываюць другапланавую ролю. Яны займаюць трэцяе месца, уступаючы сухім і сакавітым кармам. У кармленні свіней збожжа займае другое месца. Першае — бульба, або бульба з буракамі. Пры кармленні птушкі, і ў першую чаргу курэй, збожжавыя кармы выходзяць на першае месца.

Справа ў тым, што кармавая норма ў тым выпадку малая, корм павінен мець у сабе шмат кармавых рэчываў. Птушка мае кароткі страравод, не прыстасаваны да страравання вялікай колькасці карэнняў, а тым больш аб'ёмістых сухіх кармоў. У кармах павінна быць перш за ўсё шмат бялкоў, мінеральных рэчываў і вітамінаў.

У кармы могуць уваходзіць: здробленае зерне, невялікая колькасць вотруб'я, касцяная і рыбная мука, дробленае насенне алеістых, кармавыя дрожджы, саладовыя парасткі, мука з зялёнак, мінеральныя дадаткі, вітаміны. Большасць мяшанак мае ў сабе 180 гр. бялкоў у кілаграме.

У гандлі ёсць наступныя мяшанкі для птушак: «Д», «ДН», «ДК», «ДК-starter» і «ДК-finiszer». У беластоцкіх умовах дзве апошнія маюць меншае значэнне, бо ў нас менш гадуецца брайлераў, а больш курэй — нясушак. Колькасць і якасць кармоў залежыць ад носкасці курэй. Для 10 нясушак летам даем 0,5 кг паранай бульбы, 0,4 кг зялёнкі, 0,7 кг зерня і пры носкасці каля 9 яек ад курыцы ў месяц — 0,4 кг прамысловых кармоў, а пры прадукцыйнасці 27 яек — 0,7 кг.

Мяшанкі «Д» і «ДН» прызначаны для дарослых курэй. Яны маюць у 1 кг амаль цэлую аўсяную адзінку і 180 гр. бялкоў (у тым ліку 60—65 гр. жывёльных бялкоў). Каб рацыянальна выкарыстаць гэтыя кармы, трэба звярнуцца да табліцы норм. Тады куры атрымаюць такую колькасць кармоў, якая ім патрэбна на прадукцыю яек.

Птушку (у сувязі з кароткім страваводам і інтэнсіўнай прадукцыяй) кормім часцей, чым іншую жывёлу. Дарослыя куры павінны атрымліваць корм 3—4 разы ў дзень, кураняты 5—8 разоў. Куры павінны цэлы дзень мець доступ да вады. Аб гэтым часта забываюцца птушкагадоўцы ў многіх раёнах нашага ваяводства.

Пры аказіі варта прысвяціць трошкі месца закупу куранят з інкубатараў. З кожным годам усё больш ахвотных на кураняты. На жаль, усё яшчэ выступае з'ява, якая стрымлівае прадукцыйныя здольнасці інкубатараў. Справа ў тым, што ўсё яшчэ мала выкупляюцца кураняты з першых тыдняў вясны. Вядома, што выхаваць такіх куранят цяжэй, чым пазнейшых. Але за тое раннія куры пачынаюць восенню несціся.

Апрача гэтага, адмоўнай з'явай у гадоўлі курэй з'яўляецца вялікая розніца ў летняй і зімовай прадукцыі. Прычынай гэтай розніцы з'яўляецца неадпаведнае кармленне, між іншым, і слабое выкарыстоўванне мяшанак.

**Інж. М. Сухажэбрскі**

# Перадавікі сельскай гаспадаркі

Усялякіх з'ездаў і нарад у сталіцы Беластоцкага ваяводства бывае даволі многа. Вось нядаўна ў Беласток з'ехаліся гаспадары, якія пад апекай Інстытута апрацоўкі зямлі, угнаення і глебазнаўства праводзяць у сваіх гаспадарках шматлікія вопыты з рознымі дозамі штучных угнаенняў, з рознымі малавядомымі сельскагаспадарчымі культурамі. Нагода была важная — *пятнаццаць год дзейнасці.*

На гэты з'езд хацелася б паклікаць усіх сялян, усіх хлебаробаў. Было чаму добраму павучыцца. Селянін гаворыць: *жыта, авёс, бульба.* А вопытнікі «юнга» пытаюць: *якое жыта, які авёс, якая бульба.* Аказваецца, што гэта не без розніцы для ўраджаю. І гэтыя гаспадары назавуць вам па некалькі гатункаў, якія найбольш падыходзяць на землях паасобных раёнаў ваяводства.

Сабралася іх каля ста чалавек. Гэта яны на сваіх вопытных дзялянках правяраюць на практыцы ўсё тое, што ў ціхіх майстэрнях прыдумаюць высокавывучаныя людзі. На аснове іх вопытаў вядома, напрыклад, што вельмі аплоціцца даваць высокія дозы штучных угнаенняў. *Тры гады вялі вопыты. Фосфару давалі 72 кг, патасу 60 кг, і 50 кг азоту. Вопыт паказаў, што плён жыта павысіўся на 5,1 цэнтнера, азімай пшаніцы — на 4,4 цэнтнера, ярай пшаніцы — на 6 цэнтнераў, ячменю — на 5,5 цэнтн., аўса — на 4,7 цэнтн.* За дадатковыя кілаграмы штучных угнаенняў трэба плаціць дадатковыя залатоўкі. Ці аплоціцца шкура за выпраўку? Аказваецца, што *2-х цэнтнераў пшаніцы, або 3-х цэнтнераў другога збожжа зусім дастаткова, каб пакрыць цэлы кошт штучных угнаенняў. Рэшта прыбытку астаецца як узнагарода за разумнае гаспадараванне.* Гэта толькі адзін з многіх не менш вымоўных прыкладаў.

Вось устаюць і гавораць пра свае вопыты: Ян Ваўрэнюк з Макаўкі, што на Гайнаўшчыне, Аляксандр Ахрымюк з Сакоў у Бельскім павеце, Ян Казберук з Юшкавага Груда, Фелікс Лазар з вёскі Дамораты ў Дуброўскім павеце і многія іншыя. Гавораць, бы найлепшыя аграномы. І шкадуюць, што іх вопытамі мала цікавяцца вясковыя... аграномы, што мала сялян спрабуе ісці іх следам. А шкада. Таму, і не толькі таму, часценька на старонках нашага тыднёвіка будзем сустракацца з гэтымі людзьмі, даследчыкамі «юнгу». Яны ж з'яўляюцца сапраўднымі перадавікамі сельскай гаспадаркі. (вр)




**Вітамін**

**Вітамін А.** Недахоп гэтага вітаміну выклікае ўстрыманне росту (у дзяцей), змены ў рагавой абалонцы вока, паніжэнне рэзкасці зроку, працяглыя недамаганні носа і слізістай абалонкі, працяглыя бранхіты, заўчасную сівізну.

Найбольш вітаміну А маюць: зялёная салата, зялёная цыбуля, зялёная пятрушка, брусельская капуста, шпінат, кроп, зялёная спаржавая фасолька, морква, памідоры, гарошак, бручка, брусніцы, вішні, жаўток, свежае малако, масла, свежая смятана, пячонка.

**Вітамін $B_1$.** Недахоп гэтага вітаміну выклікае запаленне нерваў, аслабленне мышцаў, сапсаванне жывата і кішак, недахоп апетыту, болі ног і рук, сустаўныя недамаганні, стому.

Найбольш гэтага вітаміну маюць: зямныя пражаныя арэхі, худое свіное мяса, худая шынка, жытні хлеб тоўстага памолу, крыжоўнік, слівы, брусніцы.

**Вітамін $B_2$.** Недахоп яго выклікае запаленне вугалкоў губ з балючымі трэшчынамі, запальныя змены скуры і слізістых абалонак, недамаганні вачэй, пухліну павек, стомленасць.

Найбольш гэтага вітаміну маюць: пячонка, свежыя суніцы, разынкі, ныркі, сэрца, цяляціна, тварог, малако, вінаград, шпінат, дрожджы.

**Вітамін С.** Недахоп гэтага вітаміну выклікае хуткае стамленне, якое выступае ў маладым узросце, змяншэнне імунітэту на інфекцыйныя хваробы, крывацёк з носа і дзяснаў (цынгу), устрыманне ўзросту ў дзяцей.

Найбольш вітаміну С маюць: свежая капуста, брусельская капуста, цвятная капуста, чырвоная капуста, сок з шыпшыны, чорныя, белыя і чырвоныя парэчкі, сок з апельсінаў, лімонаў, маліны, трускалкі, ажыны, памідоры, зялёная пятрушка, квашаная капуста.

**Вітамін D.** Недахоп гэтага вітаміну выклікае адвапненне касцей, рахіт, перагной зубоў.

Найбольш гэтага вітаміну маюць: рыбін тлушч, пячонка, вэнджаныя шпроты, салёны селядзец, жаўток, масла, смятана, малако, цяляціна.

Адсюль вывад: трэба есці як найбольш гародніны, за выключэннем шчаўя і рэвеню (рабарбар), якія маюць вялікую колькасць шчаўевай кіслаты. Асабліва шкодная яна малым дзецям. Старайцеся не трымаць доўга гародніны ў вадзе, таксама не варыць доўга, найлепш есці сырую. Вельмі добра рабіць салату з сырой гародніны: крыху квашанай капусты, яблыка, морквы, цыбулі і г. д. Можна рабіць таксама салату з кальрабі (калярэпы), цыкорыі, белай і чорнай рэдзькі, хрэну, буракоў, бручкі. Усялякія камбінацыі гэтай гародніны, адпаведна прыпраўленай, вельмі смачныя і патрэбныя зімою, а асабліва вясною.

**Аксіння**

# Шукаю духа пушчы

(Працяг са стар. 1)

«Ці магчыма, каб я, звычайны чалавек, напісаў такую кніжку? Ніколі. Гэта Пушча праз мяне кліча». «Благаслаўленыя мае прылцелі, таму што першыя яны прылажыліся да заснавання Вялікай Святыні Будучыні».

Раззлаваўся я надобра на гэткую яўную хлусню. А потым прызадумаўся: гэта ж нішто іншае, як спроба аднавіць у крыху іншай форме характэрныя старой народнай культуры вераванні ва адухаўленне прыроды. Так, але часы, калі вераванні ў пушчанскіх духаў маглі мець нейкі грамадскі сэнс, адышлі непаваротна. І таму прароцтвы Раманава ёсць толькі тым, чым ёсць: фантастыкай здзівачэлага інтэлігента, які спрабаваў павярнуць кола чалавечых думак у непаваротнае мінулае.

Бо духі Белавежскай пушчы памерлі назаўсёды неадкліканай натуральнай смерцю.

**Ул. Паўлючук**

# БЕЛАРУС — ПРЭЗІДЭНТАМ



**Слухачы беларускага радыёвяшчання мелі апошнім часам магчымасць пазнаёміцца з радыёпастаноўкай Уладзіміра МЕХАВА, прысвечанай выдатнаму чалавеку — МІКАЛАЮ СУДЗІЛОЎСКАМУ.**

**Чым жа прыцягвае да сябе ўсеагульную ўвагу гэты чалавек.**

**— Мікалай Судзілоўскі, уражэнец беларускай вёскі, цяпер Клімавіцкага раёна, Магілёўскай вобласці, вымушаны быў пакінуць Расію па прычыне навіслай над ім пагрозы, быў прыцягнуты да суровай адказнасці па справе партыі «Народная воля». Яму пагражала турма і ссылка на царскую катаргу.**

**Уцёкшы з Расіі, не перарываючы сваіх рэвалюцыйных кантактаў, ён пачаў сваё блуканне па шырокім свеце... За сваё доўгае жыццё дзе ён толькі не пабываў! Тут і Румынія, і Балгарыя, і Швейцарыя, Бельгія, Італія, Францыя, Іспанія, Англія, Злучаныя Штаты, Японія, Кітай... Ёсць што ўспамінаць, ёсць пра што расказваць!**

**«Народная воля», тайная рэвалюцыйная арганізацыя народнікаў — тэрарыстаў, аб'яднала ў сваіх радах палкую моладзь, якая змагалася за звяржэнне самаўладства і ўстанаўленне дэмакратычнай рэспублікі. Праграма «Народнай волі» прадугледжвала перадачу зямлі народу, перадачу ў рукі рабочых заводаў і фабрык — прылады вытворчасці. Мікалай Судзілоўскі знаходзіўся ў кантактах з выканаўчым камітэтам партыі, супрацоўнічаў у нелегальным друку, у прыватнасці ў народавольніцкіх лістках. Пасля шэрагу няўданых замахаў народавольцам удалося забіць Аляксандра II-га. У сувязі з арыштамі народавольцаў, шматлікім з іх, яшчэ не арыштаваных царскай паліцыяй, прыйшлося ўцякаць за граніцу. М. Судзілоўскі ў 1881 годзе пераходзіць румынскую граніцу. Тут ён, хаваючыся ад царскіх шпіёнаў, якімі кішэла Румынія, змяняе сваё прозвішча на Русель, што па-румынску абазначае «рускі».**

**Недахоп месца на старонках «Нівы» не дазваляе нам на гэты раз прасачыць дарогі вандраванняў М. Судзілоўскага за граніцаю.**

**Абмінаючы доўгія гады вандраванняў па свеце, раскажам пра знаходжанне Судзілоўскага — Руселя на Гавайскіх астравах.**

**Судзілоўскі прыехаў на Гавайскія астравы незадоўга да таго, як Злучаныя Штаты, рэалізуючы сваю захопніцкую палітыку, адкрыта аб'явілі аб прылучэнні Гавайскіх астравоў да Злучаных Штатаў. Зрэшты і раней яны трымалі ў сваіх руках гэтыя астравы, хаця і не падпарадкаваны яшчэ афіцыйна.**

**Судзілоўскі прыехаў на Гавайскі архіпелаг не выпадкова. Там у гэты час знаходзілася яшчэ так званая «руская факторыя», заснаваная выхадцамі з Расіі. Людзі, якія ўцякалі ад праследванняў рускага цара, знайшлі тут прытулак і працу. Гэтая «руская факторыя» не займалася эксплуатацыяй працы палінезійцаў, якіх жорстка прыгняталі на іншых факторыях, асабліва ж на амерыканскіх. Палінезійцы паміралі так хутка, што да прыезда Руселя на астравы іх не засталося нават дзесяці тысяч чалавек!**

**На вынішчэнне карэннага насельніцтва Гавайскіх астравоў з трывогаю глядзелі спакойныя людзі, як з ліку месных, карэнных жыхараў, так і з ліку пасяліўшыхся на астравах, ужо ў больш пазнейшым часе, — у дзевятнаццатым стагоддзі. Асваенне Гавайскіх астравоў амерыканскай «культурай» ішло разам з вынішчэннем палінезійцаў.**

**ВЕЧАР У КАЛЯРОВЫХ «БЛЁКАХ»**

# ГОСЦІ не ГОСЦІ

Увечары, калі цямнее ды ўсе на месцы, жонкі, мужы, дзеці, і на блёкавых сходах сбідруюць нос пахі абедаў, і за дзвярыма гудзяць тэлевізары, радыёпрыёмнікі — тады чуваць часамі недзе як бы плач, як бы лаянку, як бы сямейную авантуру. Здаецца, пасварыліся бабы або муж б'е жонку, або жонка б'е мужа (бо і так бывае).

Але за дзвярыма паволі цішэе. І раптам зазваніў званок. На званок увечары ніхто неабыякавы. Пачуўшы яго, адразу падумаеш аб прыходзе цёшчы, швагеркі са шваграм, сястры ці брата.

Госці! Адчыняеш.

За парогам стаіць мужчына і дрыжачымі рукамі паказвае паперку (аказваецца, за дзвярыма цішэла толькі таму, што ён мацаў упоцемку званок, кнопку званка). Бярэш паперку і глядзіш на яго, на ягоную лахматую вопратку і... чырвоны нос. Рэшта невідочнае, непаголенае, неабмытае. А паперка — гэта рэнтгенаўскае прасвятленне. Паперка брудная, невыразная, даўняя. — Пане, пяць злотых, памажэць, — памалу адзываецца мужчына і панясе ад яго пахам гарэлкі.

Жабрацкі рэпертуар мужчын небагаты:

— «сухотнік» з патрэпаным рэнтгенаўскім прасвятленнем,

— «страшны інвалід» з абцёпканаю інвалідскаю легітымацыяй, у якой вырвана фатаграфія і невыразныя даты («заплаканыя даты» — і не вельмі вядома, ці яго гэта легітымацыя?),

— «цяжка хворы» з копіяй нейкага лекарскага кансіліума, у копіі мноства лацінскіх слоў, медычных фармулёвак (лацінскіх),

— «бяздомны», але як пераканаўся я потым, зусім не бяздомны.

Мужчыны дзейнічаюць спосабам «фармальных дакументаў», хітруюць, але без фантазіі. Мужчыны паходзяць, пераважна, з мястэчак і прыгарадаў (напр. Міхалова, Заблудаў, Агароднічкі, Плюцічы, Козлікі каля Заблудава).

Пераважна, не старыя яны і п'яніцы.

Жабруюць гультаявата, вераць у сілу паперкі.

Куды спраўнейшыя, працавіцейшыя ад іх бабулі (жабруючых жанчын не было). Яны, бабулі, моляцца хутка і меладычным галасам бы цыганская варажба, зычаць здароўя ды шчасця. Збіваюць гэтым з панталыку гаспадыню. Бяруць яе за сэрца слязьмі, плачам, стогнам — просьбаю аб кавалачак хлеба, нават сухога хлеба. Гаспадар кватэры наогул не любіць такіх збедаваных слёз і хаваецца ў пакой, задаволены, што жонка выручыць яго ў слуханні бабулі.

Жабрацкі рэпертуар бабуляў багаты, ой, багаты:

— галодная, бо адна на свеце; бо нявестка ганяе; бо сын ганяе; бо хворая і няшчасная; бо пагарэлі; бо не даюць рэнты; бо грэшная; бо ўнучка мае на ўтрыманні; бо зяць нядобры; бо зіма на свеце... Многа гэтых «бо»! І ўсе цэльныя яны, называюць яны сямейныя і людскія няшчасці, аб якіх кожны думае ў хвілях малых хатніх крызісаў, асабліва, думаюць жанчыны, гаспадыні — такі ўжо іх характар.

Бабуля не будзе галодная, бо вы, гаспадынька, добрая! Відаць гэта па вас, гаспадынька дарагая, мілая...

Гаспадынька рэжа паўкілёвы кавалак хлеба ёй, галоднай. Бабуля гледзячы гэта, кажа, што цукру яшчэ хоча, бо цукар не займае шмат месца ў торбе (кішэні) і ляпей яго насіць — і грошай хоча, бо з вёскі яна (людзі там кепскія!) і не мае за што вярнуцца назад, ехаць. Добра, каб гаспадынька не шкадавала больш грошай, пяць — дзесяць, аддасць іх на ахвяру боскую і маліцца будзе за здароўе гаспадынькі, якая не мае часу маліцца; і за здароўе дзетак яе памоліцца, і за мужа — начальніка, а калі муж не начальнік яшчэ, то каб стаў начальнікам высокім, добрым і з грашыма вялікімі.

Бабуля нарэшце выходзіць. Хлеба не ўзяла, пакінула яго на табурэтцы...

Насупроць маёй кватэры жыве нервовая гаспадыня. Яна тлумачыць бабульцы: — Бабульку, бойцеся Бога, не лжэце так многа!

А мужчынам тлумачыць яна так: — Бамбіза, спітая морда, прэч, бо паклічу мужыка!!

Бабулі ходзяць неяк пазней, чым мужчыны, якія амаль не з'яўляюцца пасля шостай гадзіны вечара. Вядома, мужчынам спешна да вечаровых бараў, ну, і на аўтобусы, паязды. А бабулі, як я пераканаўся, гэта вандроўніцы з далёкіх старон, вытрымалыя. Яны з Орлі, з-пад Сямяціч, з Сухаволі, Дубровы, Баброўнікаў, Кляшчэляў.

Цікавіўся я жабракамі, прасіў іх у хату, запісваў іх адрасы, ездіў па гэтых адрасах і выясняў іх лёс. Аказалася, мужчыны жабруюць на гарэлку і многа іх жабруе, але ўсе яны паходзілі з невялікай прыбеластоцкай тэрыторыі. Ёсць сярод іх адважныя, але пераважная большасць іх менш адважная, а нават нясмелая. Затое цікавячыя мяне бабулі выяўляюць энергічнасць. Іх адрасы рэдка рассеяны, але затое на вялікай тэрыторыі ад Буга па Аўгустоўскую пушчу. Належаць яны да ліку выдатных асабовасцей у старым асяроддзі аколіцы, павета. Жабруюць з амбіцыі: пасварылася бабуля з нявесткаю ці зяцям і кажа: — Буду ездзіць у горад і жыць на хлебе лешым чым ваш, і падам вас у суд! (напр. Орля, Плянты).

*

Жабракі моцна аблюбавалі каляровыя «блёкі», відаць, думаючы, што тут расселіся адны багацеі.

І яшчэ адно: мае знаёмыя, што жывуць пры брудных, старых вуліцах, не маюць такіх перапалак з жабракамі бо, проста, рэдка туды заходзяць яны.

Каляровыя «блёкі», як магніт.

**Кастусь Янкоўскі**

# ШЛЯХАМ ТЫСЯЧАГОДДЗЯ

Некаторыя мясцовасці Сакольскага павета, якія маюць багатыя гістарычныя традыцыі:

КРЫНКІ. Асада існавала ўжо ў XV стагоддзі, а ў 1569 годзе атрымала ад Зыгмунта Аўгуста магдэбургскае права, якое адабралі ў 1797 годзе пасля падзелу Польшчы. У 1434 годзе кароль Ягела супольна з вялікім князем літоўскім Зыгмунтам Кейстутовічам аднавілі тут унію Польшчы з Літвою. У 1706 г. кватараваў тут Павал XII у паходзе з Польшчы на Літву. У аколіцы былі агромныя лясы, куды прыязджаў на паляванне Станіслаў Аўгуст. Пажар у 1886 годзе знішчыў усё мястэчка. У XIX стагоддзі развіваецца прамысловасць. Першая мануфактура паўстала ў 1840 годзе. Эканамічны крызіс у 1883—1885 гадах прычыніўся да яго заняпаду. У канцы XIX стагоддзя пачынае развівацца гарбарская прамысловасць.

Рабочыя Крынак пад кіраўніцтвам І Пралетарыята і СДКПіЛь правялі многа класавай барацьбы. У 1905 годзе ўтварылася тут Крынская рэспубліка. Рабочыя занялі пастарунак паліцыі, гміну, пошту і аб'явілі сваю рэспубліку. Таксама ў міжваенныя гады ўдзельнічалі яны ў розных забастоўках і дэманстрацыях.

ЯНАЎ. Археалагічныя раскопкі сведчаць, што ўжо ў V—VI стагоддзях жылі тут людзі. Пачаткі Янава вядуць сваю радаслоўную ад вёскі Прыбудак, якая была аснавана ў 1703 годзе. Толькі каля 1712 г. пераўтвараецца яна ў горад. У 1739 г. атрымаў ён права склікання рынкаў. За часоў Тызенгаўза ў склад тзв. янаўскага ключа ўваходзіць тры гарады, 97 вёсак і 11 фальваркаў.

У некалькіх вёсках захаваліся старыя гарадзіска з часоў гродзенскага князя або з яцвяжскіх часоў.

КАРЫЦІН. Падобна як і ў аколіцах Янава захаваліся тут гарадзіска, якія сведчаць аб раннім засяленні гэтай тэрыторыі. Сам горад Карыціск быў заснаваны ў 1634 годзе. У 1871 г. атрымаў ён гарадское хэлмінскае права. У 1799 г. у Карыціне пражывала 252 асобы, а ў 1883 г. — 631. Было адкрыта тут некалькі малых фабрык.

КУЗНІЦА. Назва яе паходзіць ад заняткаў жыхараў. Яны выраблялі жалеза з дзярнінай руды. Горад Кузніца быў аснаваны ў 1536 годзе, а гарадское права атрымаў у 1546 годзе. Кузніца была рачным портам, праз які сплаўлялі гаспадарчыя і лясныя плады да Нёмана. У 1679 г. паўстаў вадзяны млын. Некалькі гадоў пазней быў пабудаваны кляштар базільянаў. Праз Кузніцу прабягала чыгунка Варшава — Пецярбург.

БАГОНІКІ, КРУШЫНЯНЫ: З'яўляюцца месцам прабывання татараў у Польшчы. Знаходзяцца там дзве старыя мячэці. *Б. Нікіцюк*

# ГАВАЙСКІХ АСТРАВОЎ

«Руская факторыя», члены якой прыналежалі да рускіх рэвалюцыйных кругоў, фактычна сталася сканцэнтраваннем «вольнадумцаў». Хутка паўстаў гурток прагрэсіўнага кірунку, які назваў сябе «свабоднымі людзьмі».

У той час з Судзілоўскім адбылося неправўдападобнае здарэнне. Адно з невялікіх палінезійскіх плямёнаў, якое ён часта наведваў, страціла свайго правадыра. Ганаровае званне правадыра племені ўсе тубыльцы вырашылі даць Судзілоўскаму, які славіўся як чалавек справядлівы, абаронца народных праў...

Уручэнне жазла правадыра племені адбылося ў трапічным лесе, паводле старынных палінезійскіх абрадаў. Правадыр племені ўзяў за жонку дачку памёршага правадыра, — гэты шлюб быў не па традыцыі, а па любві. Шлюбны акт быў замацаваны ўрачыстаю прысягаю ўсіх членаў племені падпарадкоўвацца ўказанням Руселя.

Аб гэтым цікавым моманце ў біяграфіі Судзілоўскага больш падрабязна расказвае англійскі журналіст Повель, аўтар кнігі «Гавайскія зоркі», — выданай таксама і ў рускім перакладзе ў першых гадах нашага стагоддзя.

Так пачалася казачная, палітычная кар'ера беларускага селяніна з вёскі Судзілава!

Плантатары, якія прыехалі на Гавайскія астравы з Амерыкі, выцісналі ўсялякімі няпраўдамі абарыгенаў з ураджайных земляў. Амерыканцы скупоўвалі зямельныя ўчасткі за грошы таксама і ў тых пасяленцаў, якія не валодалі сродкамі на вядзенне ўласнай гаспадаркі.

«Руская факторыя» фактычна вяла барацьбу за народныя правы, а Русель-Судзілоўскі ўзначаліў народны рух гавайцаў. Ён не агранічваўся роляю правадыра племені. Ён пачаў упартую барацьбу за законныя правы гавайцаў. Паўстае цэлае палітычнае цячэнне, і на вачах устрывожаных амерыканцаў засноўваецца партыя незалежных канакаў, на чале якой сын беларускага народа Мікалай Судзілоўскі.

Партыя дабіваецца значных поспехаў ужо на першых выбарах у гарадскія і вясковыя ўлады. Большасць шэрыфаў — члены Партыі незалежных канакаў. Пасля васьмі год гэтая партыя атрымоўвае абсалютную большасць галасоў у час выбараў у Сенат і Русель-Судзілоўскі выбіраецца прэзідэнтам Сената, членам якога ён быў і раней.

Тым часам «Руская факторыя», як арганізаванае цэлае паглынаецца Партыяй незалежных канакаў. Члены факторыі аднак захоўваюць узаемныя кантакты, хаця і рассяліся па ўсіх Гаваях. Цікава, што большасць членаў складала сабою фактычна штосьці накшалт беларускага зямляцтва, таму што вакол Судзілоўскага згрупаваліся перад усім выхадцы з беларускіх земляў.

Канчаючы наш нарыс, мы хацелі б яшчэ зазначыць, што Судзілоўскі пісаў свае ўспаміны не толькі па-руску і па-англійску. Частка іх (дзённік бадзянняў) напісана ім беларускай народнай мовай, якой ён так даражыў усё сваё жыццё, бачачы ў ёй векавую сувязь з родным народам, з яго шматвяковай гісторыяй.

Калі дазволіць месца да вандраванняў Русель—Судзілоўскага мы яшчэ вернемся на старонках «Нівы», можа быць у параўнальна недалёкім будучым!

**ПАНЦЕЛЯЙМОН ЮР'ЕЎ**

На здымку: партрэт Судзілоўскага. Гэты партрэт паходзіць з канца мінулага стагоддзя, калі Судзілоўскі ўжо быў прэзідэнтам гавайскага сената і гэтым самым вярхоўным кіраўніком архіпелага.

# КІРМАШ У ГАРАДКУ

...адбываецца ў кожны аўторак. З Беластока прыязджаюць прадстаўнікі прадпрыемства гандлю мясам. Купляюць свіней, кароў, коней. Гаспадары (здымак — 1) прывязваюць свае кароўкі да агарожы. Потым з'яўляецца класіфікатар. Ён тут найважнейшы. За ім заўсёды ходзіць таўпа людзей (здымак — 2). Класіфікатар шчупае, мацае, заглядае ззаду і спераду ды выносіць прыгавор: першы клас (вельмі рэдка), другі клас (найчасцей), трэці... А гаспадары хутка ўсё гэта пералічваюць на залатоўкі. Зусім не абыякавы для іх прыгавор класіфікатара.

Раптам загаласілі свіні. Гэта канваенты (здымак — 3) палкамі заганялі іх у самаход. Незадоўга пападуць яны на стол гаражан як смачныя катлецікі, каўбаскі ды ўсё другое, што з мяса.

Тым часам больш і менш задаволеныя гаспадары гуртам паімчаліся ў сопаўскую касу за грашыма, а адтуль, як правіла, у мясцовую гасподу. Яе працаўнікі прынамсі раз на тыдзень не наракаюць на нуду.

*Тэкст і фота: В. Р.*







**ПАСЛЯ З'ЕЗДА СД**

СД (Стронніцтва Дэмакратычнае) пашырае сваю дзейнасць у галіне паслуг. І цяпер у ваяводстве маем 9 тысяч індывідуальных рамеснікаў рознага тыпу, 5,6 тысячы рамесніцкіх майстэрняў.

У далейшым кірунак на тое, каб рамяство ў ваяводстве развівалася. Гэта вялікі рэзерв павышэння ўзроўню жыцця, асабліва мястэчкаў, дзе, як вядома, няма прамысловасці, мала зямлі, а многа рабочай сілы.

У сучасны момант рамяство мае шэраг нявырашаных спраў, якія перашкаджаюць яго развіццю. У Бельскім павеце ў апошні час было зліквідавана 325 рамесніцкіх варштатаў самымі рамеснікамі. Чаму? СД супрацьстаўляецца такой палітыцы. Плануецца пашырыць асартымент рамесніцкіх вырабаў на экспарт. (вл)

**СПР У КЛЯШЧЭЛЯХ**

Сельскагаспадарчы гурток у Кляшчэлях апякуецца сваёй засаднічай сельскагаспадарчай школай. Школа гэтая з'яўляецца калектыўным членам гуртка. З мінулага школьнага года (першы выпуск) 50 выпускнікоў пайшло вучыцца далей: у сельскагаспадарчыя тэхнікумы, тэхнікумы вясковага будаўніцтва, агародніцкія. (вл)

**НОВЫЯ ШКОЛЫ Ў...**

...Дабрывадзе, Саках, Дашах і Кляшчэлях, будаваныя, або разбудаваныя грамадскім чынам, будуць у адзін час адкрыты ў гэтым годзе. Будзе гэта вялікая ўрачыстасць для ўсіх гэтых вёсак. (вл)

